Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана 20 гр.

# НАША ВОЛЯ

БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ДВУТЫДНЁВЫ ЧАСАПІС

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вільня, Татарская вул. 15-1

Рэдакцыя прыймае: ад 8—10 і ад 14—16

Падпісная плата: у год 3 зл. за паў году 1,50 злот. квартальна 1 зл.

№ 1 (2) Вільня, 20 студзеня 1936 г. Год II

## ТУПІКІ.

У мінулым годзе польская прэса, асабліва віленская, многа увагі прысьвяціла школьнаму пытаньню.

За ўвесь час ад паўстаньня Польшчы вялізарныя высілкі былі паложаны на замацаваньне польскага школьніцтва, заснаванага ў нашых вёсках. Кошты панесены вялікія, сілы патрачана многа, а дасягненьні вельмі нязначныя. З усіх бакоў, з кожнага куточка Заходняй Беларусі даходзяць весткі, што польская школа, ня глядзячы на оптымізм афіцыяльных польскіх кругоў, апынулася ў тупіку.

Праўда, у апошні час аб гэтым тупіку чуваць былі галасы і з польскага боку, але неяк яны не знайшлі шырэйшага водгуку.

Толькі на зьездзе польскіх вучыцялёў у Вільні („Кур. Віл.", 15.XII.1935 г.) у палове сьнежня п. Матушкевіч, дыр. польскай вучыцельскай сэмінарыі, ужо прызнае, што „пачаткавая школа, якая мела быць падвалінай цэласьці нашага (польскага, рэд.) школьніцтва, ужо цяпер ёсьць „сьляпой вуліцай", выйсьці з якой бяз спэцыяльнага хатняга давучаньня немагчыма. І вось тут на пачатку заламілася мудрая мысль, якою мы так гардзілісь, — заламілась мысль аднялітасьці школьніцтва".

Горшага прысуду для школы і для вучыцеля ня можа быць, калі выхад са „сьляпой вуліцы" патрабуе яшчэ хатняга „давучаньня".

І вось, як толькі пачынаецца шуканьне прычынаў, ад якіх паўстаюць тупікі і нізкі ровень польскай школы на нашых землях, адразу на першы плян сама сабой выплывае справа языковая. Пасланка Пэлчыньская, сумуючы ў „Газэце Польскай" (5.XII. 1935 г.) над слабымі вынікамі школьнай працы на Віленшчыне, прыходзіць да вываду, што адною з труднасьцяў, абніжаючых вартасьць школьнай працы, ёсьць незнаёмасьць беларускіх дзяцей з польскаю моваю.

Здавалась бы з гэтага просты выхад — даць беларускаму дзіцяці яго родную школу.

Аднак гэтая справа не так проста вырашаецца.

Віленскі Школьны Куратар на гэта мае свае пагляды. Ен кажа, што беларусы ня хочуць сваёй роднай школы, а дамагаюцца польскай.

Як беларусы „дамагаюцца" польскай школы, нам гэта дакладна ведама. Якія выдаваліся пастановы на дамаганьне беларускіх школ шляхам складаньня школьных дэклярацый, — таксама ведаем.

А дзе-ж тыя некалькі дзесяткаў беларускіх і польска-беларускіх школ, якія паўсталі пад націскам сялянскай стыхіі, як вынік зложаных школьных дэклярацый на дамаганьне беларускіх школ у некальніх сотках школьных абводаў? Ці так сама сяляне дамагаліся, каб іх ператварылі з беларускіх зноў на польскія? Чаму, напрыклад, у гэтых школах ня было ні аднаго беларуса вучыцеля?

На такія дражлівыя пытаньні дало адказ само жыцьцё.

Нам астаецца толькі падкрэсьліць, што аснаўная засада пэдагогікі, якая заўсёды пры навучаньні высоўвае на першы плян родную мову дзіцяці, да школьніцтва на нашых землях ня мае застасаваньня.

Нават, паводле рэфэрату п. Матушкевіча, рэгулярнае ўчашчаньне дзяцей да школы „тут на Паўночна-Ўсходніх землях" ня ёсьць пытаньнем школьнага характару, а наадварот пытаньнем „шырокага значэньня грамадзкадзяржаўнага характару". І таму з такім патосам заклікаў п. Матушкевіч усё вучыцельства „вальчыць" за польскую культуру тут на рубяжох Польскай Дзяржавы.

Кожны народ мае права на сваю культуру.

Беларускі народ таксама павінен падыйсьці да гэтай справы з цьвёрдай воляй.

Школьнае пытаньне неабходна паставіць на парадку дня ўва ўсей шырыні.

Ад вырашэньня гэтага пытаньня ў вялікай меры залежыць наша будучыня — лёс нашых дзяцей.

Школьнымі справамі, дамаганьнем роднай школы, ў першую чаргу павінны заняцца беларускія культурна-асьветныя арганізацыі, прэса, студэнцкая моладзь і ўсё сьвядомае грамадзянства.



## „НАША ВОЛЯ".

*„Ня кідайце мовы роднай Беларускай,*
*Каб ня ўмерлі".*

*БУРАЧОК.*

Прайшло колькі гадоў, як араты паўстаў,
Каб за долю сваю пазмагацца, —
Ды ня быў ён гатоў... Заняпаў сном вякоў —
Толькі страшныя сны яму сьняцца.

А віхура пары падняла да гары,
Рашчапала на ўшчонт падваліны...
Усё замерла ізноў... Зьледзенела ў нас кроў...
Зайняло нават мову Краіны.

Страшна ўсё ўспамінаць. Сорам людзям казаць
Аб тэй цемры, што нас агарнула...
Але вось Кавалі паднялісь ад зямлі, —
„НАША ВОЛЯ" на вёску зірнула.

Сонцам глянула ў твар, прынясла новы дар,
Асьвяціла маланкай Краіну.
Хоць гаротны мужык ўжо да цемры прывык, —
На фундамэнт складзе цэмэнт-гліну.

Гэй, браты! Ну, дык што-ж?.. Хто мо' злот, а хто грош!..
Падтрымаць трэба „НАШУЮ ВОЛЮ"!
Усяк прынуджвай братоў ды зьбірай, пакуль кроў
Цячэ ў жылах за лепшую долю.

Хай жыве Беларусь!.. Каб ня спаў беларус,
Хай грыміць наша родная мова!..
Вам, браты-Кавалі, я, маленькі з ральлі,
Скажу шчырае простае слова:

Вы сьвятла авангард. Будзе ўдзячны вам брат
За запал гэтых сьветлых праменьняў.
„НАША ВОЛЯ" наўкол паляціць, як сакол,
Сеяць радасьць сярод пакаленьняў.

Адважней, Кавалі! Дуй ў гарно! Бі! Валі!..
Шлём гарачае Вам прывітаньне!..
Хай грыміць мова-звон! „НАША ВОЛЯ" ня сон,
Усёй Краіны хай воляю стане.

М. ЗВАНАР.

## З беларускага жыцьця.

ВЫСТАЎКА АБРАЗОЎ. 8.І. г.г. была зачынена выстаўка абразоў мастака беларуса Пётры Сергіевіча. Выстаўка абыймала пяць апошніх гадоў мастацкай працы і паказала грамадзянству каля паўсотні абразоў, маляваных алейнымі хварбамі, і амаль толькі-ж партрэтаў.

Партрэты асабліва добра выходзяць у Сергіевіча незалежна ад таго, ці робляны яны алейнымі хварбамі на палатне, ці гэта эскізы вуглём на паперы. У кампазыцыях іншых абразоў адчуваецца шуканьне новых шляхоў. Нібы сэрцам вычувае мастак трывогу Беларускага народу за сваё лепшае будучае і пераносіць яе на палотны. У некаторых кампазыцыях можа за многа ідэалізму і фантастыкі. Хочацца бачыць больш рэалізму, такога бадзёрага рэалізму, які кліча нас да сьветлых даляў будучыні. Трэба сьцьвердзіць, што ў нашым беларускім жыцьці гэтая выстаўка мае вялікае значэньне: яна сьведчыць, што мы жывем, працуем, здабываем, разьвіваемся...

Маладому мастаку жадаем далейшага разьвіцьця і пасьпеху.

ЛІТЭРАТУРНАЯ СЕРАДА ў польскіх літэратараў 15-га гэтага студзеня была прысьвечана беларускай літэратуры. Аб нашаніўскай пары прачытаў рэфэрат гр. А. Луцкевіч, аб навейшай літэратуры (пісьменьнікі Ўсходняй і Заходняй Беларусі)—гр. Ст. Станкевіч. Пасьля рэфэратаў былі прадэклямаваны творы некаторых беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, як ў арыгінале, так і ў перакладзе на польскую мову. Зацікаўленасьць была вялікая. У канцы вечара саюз абвесьціў, што ў лютым адна серада будзе прысьвечана беларускай музыцы і песьні.

ЗАБАРОНА ЛЕКЦЫЯЎ. Урад Беларускага Студ. Саюзу даручыў сваім сябрам прачытаць на вёсках пад час калядных сьвятаў лекцыі ў беларускай мове на тэмы: „Значэньне коопэрацыі на вёсцы", „Правы нацыянальных меньшасьцяў" і „30-ці летні юбілей Я. Купалы і Я. Коласа". Лекцыі меліся быць прачытаны у паветах Пружанскім, Стаўпецкім і Ашмянскім. Аднак ні адна лекцыя не адбылася з прычыны забароны мяйсцовай адміністрацыяй. Лекцыі былі зацьверджаны Сэнатам Віленскага унівэрсытэту і падпісаны Рэктарам яго, многалетнім міністрам і барацьбітом за незалежнасьць Польшчы, праф. Станевічам.

ВЫХАД „ЗОЛАКУ". Пасьля доўгага перарыву выйшаў з друку № 1 (6) „Золаку", органу беларускай соцыялістычнай думкі.

**ДУМКІ І ІМКНЕНЬНІ КОЖНАГА НАРОДУ АДБІВАЮЦЦА Ў ПРЭСЕ. ДРУКАВАНАЕ СЛОВА КАЖА УСЯМУ СЬВЕТУ АБ ІСНАВАНЬНІ НАРОДУ. ДЗЕЛЯ ТАГО ПАДТРЫМАНЬНЕ СВАЕЙ ПРЭСЫ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ГРАМАДЗКІМ АБАВЯЗКАМ КОЖНАГА БЕЛАРУСА.**

**Чытайце і пашырайце сваю газэту.**

## Абісынская вайна і Англія.

Вайна ў Абісыніі змусіла ангельцаў мабілізаваць свае аружныя марскія сілы і перавясьці іх з Атлянтыцкага акіяну ў Сяродземнае мора. Чым была выклікана такая нэрвовасьць і пасьпешная мабілізацыя? Натуральна не тым, каб бараніць незалежнасьць Абісыніі.

Замацаваньне Італіі на Абісынскім плоскаўзгор'і — найвялікшая небясьпека для марскіх шляхоў Англіі пры гандлёвых зносінах з яе заморскімі калёніямі. Вось адкуль паходзіць чуласьць ангельцаў да пакту Лігі Народаў і да пакрыўджанай Абісыніі.

Спаборніцтва за рынкі збыту і за гандлёвыя шляхі на моры — галоўная прычына, якая пачала высоўваць на першы плян не дыплёматаў ужо, а адразу марскія баевыя адзінкі, хмары аэрапланаў, падводныя лодкі і г. д.

Аснаўная задача брытанскае ваеннае флёты — забяспечаньне жыцьцёва-важнага воднага шляху Гібральтар — Мальта — Суэц, гварынтуючага бесперабойнасьць марскога гандлю Вялікай Брытаніі.

(Працяг на адвароце).

# Абісынская вайна і Англія.

(Гл. 1 стар.).

Аснаўная задача італьянскай флёты — забяспечаньне камунікацыі ў усходняй часьці сяродземнаморскага басэйну.

Гэта так сказаць пачаткава-стратэгічнае заданьне. Важнасьць яго для Італіі відавочна — не дапусьціць, каб армія была адрэзана ад свае базы. Але важнасьць таго-ж заданьня для Англіі вымагае паясьненьняў.

Аказваецца паводле ангельскай статыстыкі ў працягу круглага году любы дзень марскога гандлю Англіі з Індыяй, Аўстраліяй і Кітаем па сяродземнаморскаму шляху цэніцца не больш і ня меньш як 151 мільён фунтаў штэрлінгаў. (Болей 4-х с паловаю мільярдаў злотых). Што тыдня шэсьць мільёнаў тон харчавых прадуктаў і 20 мільёнаў тон брутто розных матэр'ялаў дастаўляюцца па гэтаму шляху ў парты Злучанага Каралеўства.

Каб падтрымаць гэтую вялізарную цыркуляцыю ладункаў, 3,000 транспартаў і параходаў працуюць што дня з поўнаю нагрузкаю: ладуюць і выладоўваюць і безперапынку ідуць туды і назад па Сяродземнаму моры, а па выхадзе ў Індыйскі акіян расьцякаюцца па чатыром напрамкам: На Індыю, Кітай, Аўстралію і Новую Зэляндыю. Перарыў гэтата шляху можа выклікаць вялізарнае зварушаньне ў Англіі. Наладжаная сталетняя сыстэма таргоўлі будзе развалена: торговы шлях па за Афрыкай, наўкола мыса Добрай Надзеі, падніме фрахты, ударажыць жыцьцё і не можа пазбавіць таргоўлі ад ваеннае небяспекі: вялікія італьянскія подлодкі з 10,000 міль раёнам плаваньня заўсёды змогуць праслізнуць ў Атлянтыцкі акіян, як у свой час пападалі туды нямецкія лодкі праз той-жа Гібральтар, або Ляманш. Вось дзеля чаго палітычныя хмары на Сяродземным моры выклікалі раптоўна рэакцыю з боку Англіі, якая безадкладна перавяла сваю Атлянтыцкую флёту ў Сяродземнае мора.

Падобна таму, як сухапутныя сілы расцэніваюцца ня толькі налічнасьцяй армат або танкаў і штыхоў, а галоўным чынам пазыцыйным палажэньнем і сувязьзю з тылам, так і магутнасьць марскіх сілаў не ацэньваецца толькі лікам армат або сілай машын, хаця-ж і самай новай канструкцыі, але наяўнасьцяй тылавых, опэрацыйных і манэўраных базаў, іх географічным і стратэгічным палажэньнем і абарудаваньнем. Вось чаму Англія, як толькі пачула небяспеку з боку Італіі для сваіх водных шляхоў, энэргічна пачала дабівацца ад Францыі, каб тая на выпадак вайны дазволіла карыстацца сваімі марскімі базамі для рэмонта і засабленьня флёты топлівам.

Калі-б, напрыклад, Італія перацяла важнейшы водны шлях Брытаніі, то ангельская флёта маючы ключы ад Гібральтара і Суэца можа літэральна задушыць эрытрэйскую італьянскую армію (у Афрыцы), адцінаючы яе цалкам ад тылавое базы.

Галоўнымі сіламі на выпадак вайны некаторыя вайсковыя аўтарытэты уважаюць падлодкі і аэрапляны. У вялікую вайну 2 500 ангельскіх траулераў працавалі цэлы год, каб патапіць 50 нямецкіх падлодак, а тыяж лодкі у працягу 9-х месяцаў патапілі 10 браненосных караблёў, ня кажучы ужо аб 350 гандлёвых. Тыя-ж аўтарытэты уважаюць, што 57 падлодак хопіць, каб заблёкаваць Англію, а італьянцы маюць іх аж 75. Апрача таго італьянцы маюць 2,700 аэраплянаў пад той час, калі ангельцы маюць іх на Сяродземным моры толькі 650.

Натуральна ўсё гэта мае некаторую долю слушнасці. Але на выпадак вайны блёкіраваны раён адразу напоўніцца ангельскімі нішчыцелямі, траулерамі, быстраходнымі маторамі, якія выпаўнілі сваю ролю ў мінулую вайну. У першую чаргу падлодкі спаткаюцца з гэтымі „драбнасткамі", пачнецца барацьба за ачыстку мора. У гэтай барацьбе „драбносткі" будуць падтрыманы крэйсэрамі, а за тым і лінейнымі сіламі.

Думаюць, што выйграе той, хто мае больш дрэдноўтаў.

Марская вайна, калі пачнецца, будзе зацяжная.

Але да вайны хіба ня дойдзе, бо яна можа выклікаць новую крывавую завіруху ў Эўропе, аднолькава небяспечную, як для італьянскага фашызму, так і для ангельскага імпэрыялізму. Гісторыя вучыць, што дужыя даходзяць да згоды заўсёды коштам слабага. І цяпер дыплёматы шукаюць формулы, якая задаволіла-б Італію і не закранала-б ангельскіх інтарэсаў. Пра Абісынію гутаркі няма ў такіх выпадках, хаця-ж яна і лічыцца членам Лігі Народаў, на якога зроблены напад.

*а.*

# НА ДАЛЁКІМ УСХОДЗЕ.

Напружанасьць адносінаў паміж Манджурыяй і Вонкавай Манголіяй настолькі завастрылася, што можна спадзявацца хуткага пачатку вайны.

Міністар замежных спраў Манджурыі заявіў, што сытуацыя ў Вонкавай Манголіі ўважаецца „за ненармальную і пагражаючую бязпечнасьці Манджурскае дзяржавы". Гэтая заява сьведчыць аб тым, што Японія зноў, і не на жарты, распачынае новы этап сваей захопніцкай палітыкі.

Апошнія 4 гады Японія, заваяваўшы Манджурыю, якую яна абвясьціла „незалежнай" дзяржавй Манджу-Го, толькі замацоўвала заваяваныя пазыцыі. Зараз, карыстаючыся з Італьянска-Абісынскага канфлікту, які адцягнуў на сябе ўвагу ўсіх вялікіх дзяржаў сьвету, Японія прызнала, што наступіў момант, калі яна зусім сьмела і бяскарна можа распачаць новы этап сваей імпэрыялістычнай палітыкі.

У мінулым лістападзе губэрнатары 5 правінцыяў Пауночнага Кітаю, зразумела, па загаду Японскага вайсковага камандаваньня, выстаўляюць дамаганьне аб прызнаньні незалежнасьці гэтых правінцыяў ад цэнтральнага Нанкінскага ўраду. Чан-Кай-Шэк, галава нанкінскага ўраду, хутка дагаварыўся з японскімі вайсковымі ўладамі ў Кітаі і згадзіўся на утварэньне аўтаномных (самаўрадавых) радаў пакуль толькі ў 2-х з гэтых правінцыяў (Гопеі і Чахару). Урад гэтых правінцыяў будзе складацца з асобаў, назначаных Нанкінскім ўрадам, але рэкамэндаваных японцамі. Пры гэтай „аўтаноміі" японцы дамагаліся, каб самаўрад меў права затрымаць выкананьне грашовай рэформы, якая праведзена ў Кітаі пры падтрыманьні Англіі, але якая вельмі не карысна для інтарэсаў японскага капіталу. Вельмі характэрным пры такой „аўтаноміі" зьяўляецца той факт, што старшыня „аўтаномнага" ураду Сун-Чэ-Ян запрасіў да сябе саветнікам японскага гэн. Дайгара, начальніка японскай разведкі пры квантунскай арміі, які да гэтага часу кіраваў японскай палітыкай у Кітаі. Вось як выглядае „аўтаномія" паўночных праправінцыяў Кітаю. Нанкінскі урад, ня чуючыся здольным арганізаваць абарону інтарэсаў сваей дзяржавы проці захопніцкіх плянаў Японіі, пайшоў па шляху ўгоды, каб толькі захаваць сваю ўладу.

Зусім інакш застасоўваецца да гэтага сьвядомае і арганізаванае грамадзянства. Ведамы кітайскі гэнэрал Хсу-Фанг Цінг, каб паўстрымаць здраду, канчае жыцьцё самагубствам, перад памятнікам бацькі кітайскага вызваленчага руху Сун-Ят-Сэна. Моладзь, арганізаваная ў нелегальныя патрыятычныя саюзы, і кітайскае студэнцтва востра зарэагавалі супроць аўтаноміі, ўведзенае пад прымусам японскіх штыхоў. Забастоўкі і студэнцкія дэманстрацыі ахапілі ўвесь Кітай. У паўночных правінцыях у сувязі з разрухамі зачынены унівэрсытэт, а ў некаторых гарадох абвешчана асаднае палажэньне.

У Нанкіні і Шанхаі студэнты занялі вагзал і не дапускаюць адпраўкі паездоў. У будынак японскага марскога штабу ў Шанхаі кінута бомба. Японскія консульства знаходзяцца пад аховай сваіх жаўнераў. 25-га сьнежня ранены тэрарыстамі міністар Нанкінскаг ўраду Тан-Ю-Жен, які быў прыхільнікам супрацоўніцтва з Японіяй. Па дарозе ў шпіталь Тан-

# Вайна ў Афрыцы.

У канцы сьнежня абісынскае войска пасьля бітвы пад Маі-Тімшэт каля ракі Таказзэ пранікнула ў тыл італьянскае арміі і з таго часу ініцыятыва на паўночным фронце знаходзіцца ў рукох абісынцаў. Барацьба ўвесь час ідзе прыблізна на тых пунктах, з якіх пачалося наступленьне італьянцаў. У канцы сьнежня абісынцы пявялі наступленьне і на Аббі-Аді, падчас якога італьянцы страцілі 340 чалавек забітых і раненых. Абісынцы біліся заўзята. У выніку баёў на паўночным фронце абісынцы асягнулі вялікія мейсцовыя пасьпехі, але не здолелі разгарнуць іх у вялікшыя апэрацыі.

Канец году адзначаўся новаю нялюдзкаю дзікасьцю італьянцаў. 30 сьнежня італьянскія лётнікі скінулі бомбы на швэдзкі шпіталь Чырвонага Крыжа, пры чым частка эўрапэйскага персаналю была забітая, галоўны лекар дохтар Хіландэр ранены, а д-р Люндстром памёр ад ранаў. Забіта 28 хворых, што знаходзіліся ў шпіталі. Д-р Хіландэр данёс свайму ўраду, што на шпіталі былі выразныя адзнакі Чырвонага Крыжа і што італьянцы бамбардавалі шпіталь зусім сьвядома. Бамбардаваньне шпіталю, які знаходзіцца пад аховай міжнароднага дагавору выклікала агульнае абурэньне. Негус выслаў пратэст у Лігу Народаў. Швэдзкі ўрад па атрыманьні дакладнае справаздачы ў гэтай справе выступіў перад італьянскім урадам з нотай пратэсту і дамаганьнем адшкадаваньня.

Італьянцы тлумачацца тым, што абісынскае войска быццам хаваецца пад адзнакамі Чырвонага Крыжа. Адначасна італьянцы абвяшчаюць, што абісынцы адрубалі голавы 2 лётнікам, якія былі змушаны спусьціцца на тэрыторыі абісынскіх войск.

Праз некалькі дзён пасьля бамбардаваньня швэдзкага шпіталю, дэпэшы з фронту прыняслі новую вестку аб бамбардаваньні італьянскімі лётнікамі і Эгіпэцкага шпіталя Чырвонага Паўмесяца.

Распачаўшыяся на паўночным участку і ў Агадэне дажджы не даюць магчымасьцяў разьвіць вялікшыя апэрацыі. Дэпэшы даносяць толькі аб партызанскіх сутычках, у якіх галоўныя сілы ваюючых не прымаюць удзелу. Агэнства Рэйтэра 15 студзеня даносіць, што камунікацыя паміж Адуяй і Макальле перарвана. Вельмі магчыма, што абісынскае войска магло нават заняць Макальле, але з матываў стратэгічных пакуль гэтага ня робіць.

На паўдзённым Самалійскім фронце, паводле афіцыяльнага італьянскага камунікату армія гэн. Гразіані за апошнія дні пасунулася наперад прыблізна на 60 кілямэтраў адпіхаючы войска раса Дэста. Італьянцы выставілі супроць абісынцаў танкі, з якіх косяць кулямётамі войска раса Дэсты. Абісынцы бьюцца заўзята, але змушаны адыходзіць.

**ТЫМ ЧЫТАЧАМ, КАТОРЫЯ НЕ АДГУКНУЦЦА ПА ДРУГІМ НУМАРЫ, ВЫСЫЛКА ГАЗЭТЫ БУДЗЕ СПЫНЕНА.**

# СТАРОЕ ці НОВАЕ?

**Мы зьяўляемся сьведкамі вялікага ажыўленьня ў грамадзкім жыцьці, якое сяньня ўскалыхнула шырокімі народнымі масамі. Да актыўнага жыцьця далучаюцца новыя сілы, якія яшчэ ўчора спалі і безнадзейна глядзелі на сяньняшні дзень.**

Гэты працэс прабуджэньня грамадзкіх сілаў робіць вялікі пасьпех і ў нашай Краіне сярод гушчаў Беларускага народу. Пад яго магутным ўплывам у грамадзкім жыцьці адбываецца нейкая перастаноўка сілаў, нейкая „пераацэнка вартасьцяў".

Падыходзячы з пункту гледжаньня найбольш балючых народных інтарэсаў, папробуем даць ацэнку праэкту новай праграмы Б. Х. Дэмакратыі, якая мае называцца Народным Аб'еднаньнем. (Глядзі „Бел. Крыніцу" № 46).

Справа ў тым, што аб галоўным прынцыповым пытаньні—аб грамадзкім парадку, які зьяўляецца ідэалам БХД, праграма гаворыць па старому, што „грамадзкі парадак Беларускага народу агулам павінен апірацца на прынцып прыватнай ўласнасьці" (§ 18 праграмы). І нічога тут не зьменіцца ад таго, што ў далейшых пунктах гаворыцца аб урэгуляваньні прыватнай ўласнасьці, ці нават аб супольнай ўласнасьці. Факт застаецца фактам; БХД як стаяла, так і засталася на грунце капіталістычнага ладу, які сяньня перажывае такі глыбокі крызыс ва ўсім капіталістычным сьвеце.

Але цяпер мы хочам зьвярнуць увагу чытача на тое, які адказ дае праграма на пытаньні, вырашэньня якіх шукаюць беларускія народныя масы.

Праўда мусім сцьвердзіць, што ў гэтай праграме ужо няма ненавіснага гэтым масам фашыстоўскага духу. Гаворым „ужо няма", бо добра памятуем карпаратыўныя пляны, якія доўгі час сьвяцілі на старонках „Беларускай Крыніцы" Мусаліні - Гітлераўскімі колярамі.

Цяпер сэзон на гэтыя карпаратыўныя фашыстаўскія праекты канчаецца. З задаваленьнем сцьвярджаем: пакончыла з гэтым і БХД ў сваей новай праграме.

Вось гэта новае, што заслугоўвае на увагу.

Але за гэтым новым зьяўляецца шмат старога, якое выклікае у запраўдных прыхільнікаў нашага народу шмат засьцярог.

Пераглядзім пабежна гэты праект.

Мы ўсе занепакоены лёсам падрастаючага маладога пакаленьня. Мы бачым вырашэньне гэтага пытаньня у стварэньні беларускіх школаў за кошт ураду. Гэта справа зусім ясная. Мы плацім падаткі—значыць з гэтых-жа грошаў маем права дамагацца пакрыцьця буджэту нашых школаў. Інакш гэтую справу ставіць праграма БХД. Яна адразу пакідае дзьверы для зусім недэмакратычнага стану—для утрыманьня школаў на кошт грамадзян. Той, хто сапраўды зьвязаны з штодзенным жыцьцём беларускіх мас, будзе бачыць, што такая пастаноўка пытаньня не адказвае імкненьням нашага народу.

У асобным аддзеле гаворыцца аб найбольш балючай справе для нашых сялян—аб зямлі. І тут трэба проста сказаць, што не жыцьцёвыя інтарэсы шырокіх народных мас кіравалі аўтарамі гэтай праграмы, калі яны пісалі IX разьдзел § 24, што „найбольш адпаведнай формай прыватнай зямельнай гаспаркі БНА уважае гаспадарча самавыстарчальныя хутары". . Безумоўна, гэтая форма найбольш адпавядае багатай частцы нашай вёскі. Няхай-бы так і сказалі аўтары праграмы, але тут мова ідзе „аб найбольш адпаведнай форме" наагул, — а гэта ўжо зусім іншая справа.

Ў праграме даецца адказ на пытаньне, як выйсьці з нэндзы малазямельным і батраком. Высоўваецца лёзунг: зямля бяз выкупу. Гэта вельмі добра. Але наступнае мейсца ў праграме перакрэсьлівае тое значэньне, якое мае гэты лёзунг у сьведамасьці народных масаў і якое ён нават прыймаў на зьездзе Польскага Стронніцтва людовага. У гэтым (28-м) пункце гаворыцца, што разрахунак за зямлю з уласьнікамі праводзіць дзяржава. Тут трэба выбіраць. Або „зямля бяз выкупа" і тады няма ніякіх разрахункаў (бо дзяржава плаціць грашамі народных мас), або гэты лёзунг без ніякага паважнага сэнсу.

Мы закранулі тут вельмі дробную частку справаў, аб якіх гаворыцца ў праграме. Есьць тут новае, дэмакратычнае, але пазасталося многа старага, якое прымаецца за новае, і якое стаіць у вялікай супярэчнасьці з праўдзівым дэмакратызмам.

Да агульных прынцыповых пытаньняў мы яшчэ вернемся.

*М. Падлесны.*

